## ДРУГОЕ ПАСЛАННЕ ДА КАРЫНЦЯНАЎ

## 1 (1-24)

[1]Павел, з волі Божай апостал Езуса Хрыста, і брат Цімафей – Касцёлу
Божаму ў Карынце, з усімі святымі ва ўсёй Ахаіі: [2]ласка вам і спакой ад Бога
Айца нашага і Пана Езуса Хрыста.
[3]Благаслаўлёны Бог і Айцец Пана нашага Езуса Хрыста, Айцец
міласэрнасці і Бог усякага суцяшэння, [4]які суцяшае нас ва ўсякім смутку
нашым, каб мы маглі суцяшаць усіх засмучаных тым суцяшэннем, якім Бог
суцяшае нас саміх. [5]Бо, як памнажаюцца ў нас цярпенні Хрыстовыя, так
памнажаецца праз Хрыста і суцяшэнне нашае. [6]Калі мы спазнаем уціск, то
дзеля вашага суцяшэння і збаўлення. Калі суцяшаемся, то дзеля вашага
суцяшэння, якое здзяйсняецца ў вытрыванні тых самых цярпенняў, што і мы
церпім. [7]І надзея нашая на вас моцная, бо мы ведаем, што вы супольнікі нашыя
як у цярпеннях, так і ў суцяшэнні.
[8]Бо мы не хочам, каб вы, браты, не ведалі аб нашым уціску, які мы спазналі
ў Азіі, бо бязмерна цяжка было нам і не пад сілу, ажно не спадзяваліся застацца
жывымі. [9]Але самі ў сабе мы адчулі пагрозу смерці, каб спадзявацца не на саміх
сябе, але на Бога, які ўваскрашае мёртвых. [10]Ён выбавіў нас ад такой вялікай
[небяспекі] смерці і выбаўляе, і на Яго спадзяемся, што і яшчэ выбаўляць будзе,
[11]бо і вы заступаецеся за нас у малітвах, каб многія дзякавалі за нас і за дар,
дадзены нам па просьбе многіх.
[12]Бо хвала нашая – гэта сведчанне сумлення нашага, што мы ў прастаце і
шчырасці Божай, не ў цялеснай мудрасці, але ў ласцы Божай жылі на свеце,
асабліва сярод вас. [13]Бо мы не пішам вам [нічога] іншага, але тое, што вы
чытаеце ці пазнаеце. Спадзяюся, што да канца пазнаеце, [14]як вы часткова і
пазналі, што мы з’яўляемся хвалой вашай, як і вы нашай, у дзень Пана [нашага]
Езуса.
[15]І з гэтым перакананнем я хацеў прыйсці да вас раней, каб вы другі раз
мелі радасць: [16][першы], калі праз вас ішоў у Македонію, [другі], калі з
Македоніі зноў вяртаўся да вас, каб вы правялі мяне ў Юдэю. [17]Ці ж я быў
легкадумны, маючы такі намер? Ці тое, што я задумваю, паводле цела
задумваю, каб было ў мяне «так, так» і «не, не»? [18]Бог – верны, таму слова
нашае да вас не азначае «так» і «не»! [19]Бо Сын Божы, Езус Хрыстус, якога я і
Сільван, і Цімафей вам прапаведавалі, не быў «так» і «не», але было ў Ім
[толькі] «так». [20]Усе абяцанні Божыя сталіся ў Ім «так». Таму таксама праз Яго
нашае «амэн» ёсць на хвалу Божую. [21]Той, хто ўмацоўвае нас з вамі ў Хрысце і
намасціў нас, ёсць Бог, [22]які пазначыў нас і даў сэрцам нашым задатак Духа.
[23]Я Бога клічу ў сведкі майго жыцця, што не прыйшоў я яшчэ ў Карынт, бо
шкадую вас. [24]Не таму, што мы пануем над вашай вераю, але таму, што мы
саўдзельнікі радасці вашай, бо верай вы цвёрдыя.

## 2 (1-17)

[1]Я вырашыў не прыходзіць да вас ізноў у смутку. [2]Бо, калі я засмучаю вас,
то хто суцешыць мяне, як не той, хто засмучаны мною? [3]Тое самае я напісаў
вам, каб, прыйшоўшы, не мець суму ад тых, ад якіх мне трэба мець радасць,
маючы перакананне аб усіх вас, што мая радасць таксама вашая. [4]Бо ў вялікім
уціску і тузе сэрца пісаў я вам са слязьмі не для таго, каб засмуціць вас, але каб
вы пазналі маю вялікую любоў да вас.
[5]Калі ж хто засмуціў, то не мяне засмуціў, але ў нейкай ступені, – каб не
перабольшваць, – і ўсіх вас. [6]Даволі такому пакарання ад многіх; [7]таму
наадварот лепш даруйце яму і суцешце яго, каб не быў ён ахоплены сумам
празмерным. [8]Дзеля гэтага прашу вас паказаць яму любоў. [9]Бо для таго я і
напісаў, каб выпрабаваць вас, ці ва ўсім вы паслухмяныя. [10]А каму вы што
даруеце, таму і я [дарую]. Бо і я, калі што дараваў, дараваў дзеля вас перад
Хрыстом, [11]каб не трапілі мы ў пастку сатаны, бо нам вядомы ягоныя думкі.
[12]Прыйшоўшы ў Траады дзеля абвяшчэння Хрыста, хоць мне былі
адчынены дзверы ў Пану, [13]я не меў спакою духа, бо не знайшоў там брата
майго Ціта. Таму, развітаўшыся з імі, я пайшоў у Македонію. [14]Дзякуем Богу,
што заўсёды дае нам перамогу ў Хрысце і водар пазнання Яго выяўляе праз нас
у кожным месцы. [15]Бо мы Хрыстовы водар для Бога сярод тых, хто збаўляецца,
і тых, што гіне. [16]Для адных мы пах смерці на смерць, а для другіх – водар
жыцця на жыццё. І хто варты гэтага [задання]? [17]Бо мы не гандлюем словам
Божым, як многія, але апавядаем шчыра, як ад Бога перад Богам у Хрысце.

## 3 (1-18)

[1]Няўжо пачынаць нам ізноў знаёміцца? Няўжо нам, як некаторым,
патрэбны даверчыя лісты да вас ці ад вас? [2]Вы – наш ліст, напісаны ў сэрцах
нашых, які ведаюць і чытаюць усе людзі. [3]Вы паказваеце, што вы – ліст
Хрыстовы дзякуючы нашаму служэнню. Напісаны не чарніламі, але Духам Бога
Жывога, не на каменных табліцах, але на цялесных табліцах сэрцаў.
[4]Такі давер мы маем праз Хрыста да Бога. [5]Не таму, што мы здольныя
думаць нешта ад сябе, [6]але здольнасць нашая ад Бога, які ўчыніў нас здольнымі
быць слугамі Новага Запавету: не літары, але духу, бо літара забівае, а дух
ажыўляе.
[7]Калі ж служэнне смерці, выразанае літарамі на камянях, мела такую
хвалу, што сыны Ізраэля не маглі глядзець на аблічча Майсея з прычыны
знікомай славы аблічча ягонага, [8]то наколькі ж большае ў славе будзе служэнне
духа? [9]Калі служэнне асуджэнню – [гэта] слава, то тым больш пераўзыходзіць
славаю служэнне справядлівасці. [10]Бо ў гэтым выпадку праслаўленае не мае
славы ў параўнанні з цяперашняй нязмернай славай. [11]Бо, калі знікомае слаўнае,
то нашмат больш слаўнае тое, што трывае.
[12]Маючы такую надзею, паступаем з вялікай адвагаю. [13]Але не так, як
Майсей, які закрываў твар свой, каб сыны ізраэлевы не пазіралі на канец таго,
што мінае. [14]Але зацміліся розумы іх, бо аж да сённяшняга дня тая заслона

застаецца незнятай пры чытанні Старога Запавету, бо мінае яна ў Хрысце.
[15]Ажно да сённяшняга дня, калі чытаюць Майсея, заслона ляжыць на іх сэрцы.
[16]*Калі ж нехта звяртаецца да Пана, заслона здымаецца.* [17]Пан ёсць Духам, а
дзе Дух Пана, там свабода. [18]А мы ўсе з адкрытым абліччам углядаемся, нібы ў
люстра, у славу Пана і перамяняемся ў той самы вобраз ад славы ў славу, так як
праз Дух Пана.

## 4 (1-18)

[1]Таму, маючы з міласэрнасці Божай такое служэнне, мы не губляем адвагі.
[2]Наадварот, мы адракліся ад сарамлівых скрытых спраў, мы не паводзім сябе
падступна і не скажаем слова Божага, але праз выяўленне праўды даручаем
сябе сумленню кожнага чалавека перад Богам.
[3]Калі ж і закрыта Евангелле нашае, то закрыта для тых, хто гіне, для
няверуючых, [4]якім бог веку гэтага зацьміў розум, каб ім не зззяла святло
Евангелля славы Хрыста, які ёсць вобразам Бога. [5]Бо мы не сябе абвяшчаем, але
Езуса Хрыста, Пана, а саміх сябе – як слугаў вашых дзеля Езуса. [6]Таму што Бог,
які загадаў: «*Няхай з цемры зазззяе святло*», засвяціў у нашых сэрцах, каб даць
святло пазнання славы Божай у абліччы Езуса Хрыста.
[7]Мы маем скарб у гліняных начыннях, каб веліч моцы была Божая, а не
паходзіла ад нас. [8]Усяляк уціскаюць нас, але мы не прыгнечаныя. Мы ў
разгубленасці, але не паддаёмся роспачы. [9]Нас пераследуюць, але мы не
пакінутыя. Знішчаюць нас, але мы не гінем. [10]Заўсёды носім у целе кананне
Езуса, каб і жыццё Есуса аб’явілася ў целе нашым. [11]Бо мы, якія жывём,
няспынна ідзём на смерць дзеля Езуса, каб і жыццё Езуса аб’явілася ў нашым
смяротным целе. [12]Так што смерць дзейнічае ў нас, а жыццё – у вас.
[13]Маючы той самы дух веры, як напісана: «*Я паверыў, таму прамовіў*», – і
мы верым, таму і кажам, [14]ведаючы, што той, хто ўваскрасіў Пана Езуса, і нас
уваскрасіць разам з Езусам і паставіць перад сабою разам з вамі. [15]Бо ўсё дзеля
вас, каб памнажэнне ласкі ў многіх выклікала шчодрую падзяку дзеля Божай
славы. [16]Таму мы не губляем адвагі, бо, хоць знешні наш чалавек тлее, духоўны
з дня ў дзень аднаўляецца. [17]Нашае часовае лёгкае цярпенне дае нам бязмернае
багацце вечнай славы. [18]Мы не ўзіраемся ў бачнае, але ў нябачнае, таму што
бачнае – часовае, а нябачнае – вечнае.

## 5 (1-21)

[1]Мы ведаем, што калі зямны дом нашага жылля разваліцца, то ад Бога
маем жыллё – нерукатворны вечны дом у нябёсах. [2]Таму мы і ўздыхаем,
жадаючы апрануцца ў нябесны дом. [3]Каб толькі нам, і апрануўшыся, не
аказацца голымі. [4]Бо мы, знаходзячыся ў гэтым шатры [нашага зямнога жылля],
уздыхаем пад цяжарам, бо не хочам распрануцца, але апрануцца, каб тое, што
смяротнае, было паглынута жыццём. [5]А Бог, які і стварыў нас для гэтага, даў
нам задатак Духа.

[6]Маючы ўпэўненасць у кожнай хвіліне, ведаем, што, [7]калі прысутнічаем у
целе, мы далёка ад Пана. Бо паступаем мы паводле веры, а не паводле бачання.
[8]Аднак, маючы ўпэўненасць, мы больш хочам пакінуць цела і пасяліцца ў Пану.
[9]Таму стараемся падабацца Яму, ці то будучы з Ім, ці то далёка ад Яго. [10]Бо ўсе
мы павінны з'явіцца перад тронам Хрыста, каб кожны атрымаў згодна з тым,
што ён рабіў, жывучы ў целе: добрае ці дрэннае.
[11]Таму, ведаючы боязь Пана, мы пераконваем людзей, а для Бога мы
адкрытыя; і спадзяюся, што адкрытыя і для вашых сумленняў. [12]Бо мы не
нанова прадстаўляем сябе вам, але даем нагоду хваліцца намі, каб вы маглі
супрацьстаяць тым, хто хваліцца тым, што звонку, а не ў сэрцы. [13]Калі ж мы
выходзім з сябе, то для Бога; калі ж пры розуме, дык для вас.
[14]Бо любоў Хрыста ахапіла нас, якія думаюць, што калі Адзін памёр за
ўсіх, то ўсе памерлі. [15]А Езус памёр за ўсіх, каб тыя, хто жыве, ужо не дзеля
сябе жылі, а дзеля Памерлага за іх і Уваскрослага. [16]Таму адгэтуль мы нікога не
ведаем паводле цела. Калі ж і пазналі Хрыста паводле цела, то сёння ўжо не
пазнаём. [17]Таму, калі хто ў Хрысце, той новае стварэнне; даўняе мінула, вось
сталася новае.
[18]Усё ад Бога, які праз Хрыста паяднаў нас з сабою і даў нам служэнне
паяднання, [19]таму што Бог у Хрысце паяднаў з сабою свет, не зважаючы на
правіны людзей, і даў нам слова паяднання. [20]Таму ад імя Хрыста мы
з'яўляемся пасланцамі як бы [самога] Бога, які заклікае праз нас. Ад імя Хрыста
просім: паяднайцеся з Богам. [21]Бо таго, хто не ведаў граху, Ён учыніў грахом
замест нас, каб мы ў Ім сталіся справядлівасцю Божай.

## 6 (1-18)

[1]Як супрацоўнікі, мы заклікаем, каб вы не прымалі ласкі Божай дарэмна.
[2]Бо Ён кажа:
«*У час спрыяльны Я пачуў цябе*
*і ў дзень збаўлення дапамог табе*».
Вось цяпер час спрыяльны, вось цяпер дзень збаўлення. [3]Мы нікому ні ў
чым не даём спатыкацца, каб не знайшлося заганы ў нашым служэнні, [4]але ва
ўсім выяўляем сябе як слугаў Божых: у вялікай цярплівасці, у турботах, у
патрэбе, ва ўціску, [5]пад ударамі, у вязніцах, у хваляваннях, у працы, у чуванні,
у посце, [6]у чыстасці, у пазнанні, у велікадушнасці, у ласкавасці, у Духу Святым,
у любові некрывадушнай, [7]у слове праўды, у моцы Божай, са зброяй
справядлівасці ў правай і ў левай руцэ, [8]праз славу і бясслаўе, праз ганьбу і
прызнанне. Мы нібы ашуканцы, але праўдзівыя; [9]нібы невядомыя, але нас
пазнаюць; нібы паміраючыя, але вось мы жывём; нібы пакараныя, але не
забітыя; [10]нібы засмучаныя, але заўсёды радуемся; нібы ўбогія, але многіх
узбагачаем; нібы нічога не маем, але ўсім валодаем.
[11]Вусны нашыя і сэрца адкрыліся перад вамі, карынцяне. [12]Вам не цесна ў
нас, але ва ўлонні вашым цесна вам. [13]Адплаціце тым жа. Кажу, як дзецям,
адкрыйцеся і вы.

[14]Не хадзіце пад чужым ярмом з няверуючымі. Бо якая лучнасць
справядлівасці з беззаконнем? Што агульнага паміж святлом ды з цемраю?
[15]Што за згода паміж Хрыстом і Бэліарам? Што яднае веруючага з
няверуючым? [16]Што мае агульнага святыня Бога з ідаламі? Мы – святыня Бога
жывога, як сказаў Бог:
«*Пасялюся ў іх і буду хадзіць,*
*і буду іх Богам, і яны будуць Маім народам*.
[17]Таму *выйдзіце ад іх*
*і адлучыцеся*, – *кажа Пан,* –
*і не дакранайцеся да нячыстага,*
*і Я прыму вас*,
[18]і *буду* вам *Айцом*,
а вы будзеце *Мне сынамі* і дочкамі, –
*кажа Пан Усемагутны*».

## 7 (1-16)

[1]Таму, умілаваныя, маючы абяцанні, ачысцім сябе ад усякага бруду цела і
духа, здзяйсняючы асвячэнне ў боязі Божай.
[2]Прыміце нас. Мы нікога не пакрыўдзілі, нікога не ашукалі, нікога не
выкарыстоўвалі. [3]Не для асуджэння кажу, бо я раней сказаў, што вы ў сэрцах
нашых, каб разам памерці і разам жыць. [4]Вялікае ў мяне спадзяванне на вас,
вялікая мне пахвала за вас. Я напоўнены суцяшэннем, перапоўнены радасцю ў
кожным уціску нашым. [5]Бо, калі мы прыйшлі ў Македонію, цела нашае не мела
ніякай палёгкі, але ва ўсім пакутавалі: звонку – змаганні, унутры – боязь.
[6]Але [Бог], які суцяшае прыніжаных, суцешыў нас прыйсцем Ціта. [7]І не
толькі яго прыйсцем, але і суцяшэннем, якім ён сушыўся сярод вас,
расказваючы нам аб вашай руплівасці, вашым плачы, вашым клопаце пра мяне,
таму я яшчэ больш узрадаваўся.
[8]Калі я і засмуціў вас у пасланні, не шкадую. Калі і шкадаваў, – бо бачу,
што гэтае пасланне на нейкі час засмуціла вас, [9]цяпер радуюся, не дзеля таго,
што вы засмуціліся, але што вы засмуціліся для пакаяння. Вы засмуціліся
паводле Божай волі, каб ні ў чым не мецъ ад нас шкоды. [10]Бо гэты смутак
паводле Божай волі, яго не трэба шкадаваць, бо ён праз пакаянне вядзе да
збаўлення, а смутак свету нясе смерць. [11]Вось жа сам сум, які згодны з Божай
воляй, наколькі ж вялікую абудзіў руплівасць у вас, абарону, абурэнне, боязь,
жаданне, клопат, адплату! Ва ўсім вы паказалі сябе беззаганнымі ў гэтай
справе. [12]Таму, калі я і напісаў вам, то не дзеля крыўдзіцеля і не дзеля
пакрыўджанага, але каб выявілася руплівасць вашая аб нас перад Богам. [13]Дзеля
гэтага мы спазнаем суцяшэнне.
Яшчэ больш мы суцешыліся з прычыны радасці Ціта, бо ўмацаваўся дух
яго дзякуючы вам усім. [14]Я не саромеўся, калі ў чым хваліўся вамі перад ім, але,
як усё мы ў праўдзе сказалі вам, так і перад Цітам хвала нашая аказалася
праўдзівай. [15]І сэрца яго тым больш [хінецца] да вас, калі ён успамінае аб

паслухмянасці ўсіх вас, як вы прынялі яго з бояззю і трымценнем. [16]Я радуюся,
што ва ўсім [магу] спадзявацца на вас.

## 8 (1-24)

[1]Паведамляем вам, браты, пра ласку Божую, дадзеную Касцёлам
Македоніі. [2]Бо ў цяжкім выпрабаванні ўціскам іх вялікая радасць і глыбокае
ўбоства выліліся ў шчодрае багацце іхняй велікадушнасці. [3]Сведчу, што яны
паводле сваіх сілаў і па-над сілы былі добраахвотнымі [4][і] вельмі настойліва
прасілі ў нас ласкі саўдзельнічаць у служэнні дзеля святых. [5]І не так, як мы
спадзяваліся, але саміх сябе найперш даручылі Пану і, з волі Божай, нам. [6]Дзеля
гэтага мы прасілі Ціта, каб ён, як пачаў, так і завяршыў у вас і гэтую добрую
справу.

[7]Але паколькі вы перапоўненыя ўсім: вераю і словам, і пазнаннем, і
ўсялякай стараннасцю, і любоўю вашаю да нас, то будзьце перапоўненыя гэтай
ласкай. [8]Не кажу гэта, як загад, але праз стараннасць іншых выпрабоўваю
шчырасць вашай любові. [9]Бо ведаеце вы ласку Пана нашага, Езуса Хрыста, што
Ён, хоць быў багаты, стаў бедным дзеля вас, каб вы ўзбагаціліся Ягоным
убоствам. [10]Я выказваю сваё меркаванне, што гэта карысна для ўсіх вас, якія з
мінулага года першымі пачалі не толькі рабіць гэта, але і хацець гэтага. [11]А
цяпер давядзіце справу да канца, каб ахвочая гатоўнасць здзейснілася па меры
вашых сродкаў. [12]Бо калі ёсць гатоўнасць, яна ацэньваецца паводле таго, што
нехта мае, а не паводле таго, чаго не мае. [13]Бо не пра тое гаворка, каб вы рабілі
палёгку іншым, а сябе пакідалі ва ўціску, але каб была роўнасць. [14]Цяпер ваш
дастатак дапаможа іх нястачы, каб іхні дастатак дапамог таксама вашай
нястачы, каб была роўнасць, [15]як напісана: «*Хто сабраў шмат, не меў лішку; і
хто – мала, не меў нястачы*».

[16]Дзякую Богу, які напоўніў сэрца Ціта такім клопатам пра вас, [17]бо ён
прыняў запрашэнне і ў сваёй вялікай стараннасці, паводле свайго жадання,
пайшоў да вас. [18]З ім мы паслалі [таксама] брата, якога хваляць усе Касцёлы за
абвяшчэнне Евангелля. [19]І не толькі гэта, але ён выбраны таксама праз
ускладанне рук Касцёламі, каб спадарожнічаць нам у той ласцы, якой мы
ахвотна служым на славу самога Пана, [20]асцерагаючыся, каб не дакараў нас хто
за такое мноства дароў, якія мы атрымалі праз сваё служэнне. [21]Бо мы
*клапоцімся* аб *добрым* не толькі *перад Панам*, але *і* перад *людзьмі*. [22]Мы паслалі
з імі брата нашага, адданасць якога мы шмат у чым выпрабавалі. Цяпер жа яго
адданасць яшчэ большая, бо мае на вас вялікую надзею.

[23]Што да Ціта, то гэта мой таварыш і супрацоўнік дзеля вас. А што да
братоў нашых, то яны пасланцы Касцёлаў, слава Хрыста. [24]Таму пакажыце ім
вашую любоў і слушнасць нашага гонару за вас перад Касцёламі.

## 9 (1-15)

[1]Для мяне ж лішне пісаць да вас аб служэнні святым, [2]бо я ведаю вашую
адданасць, якой хвалюся перад македонцамі, [кажучы], што Ахая падрыхтавана

яшчэ з мінулага году. І руплівасць вашая заахвоціла многіх. [3]Я паслаў братоў,
каб нашае хваленне вамі не аказалася дарэмным у гэтай справе, але каб вы, як
казаў я, былі падрыхтаваныя. [4]І калі прыйдуць са мною македонцы і знойдуць
вас непадрыхтаванымі, каб мы – не кажу вы – не асароміліся, з прычыны такой
упэўненасці. [5]Таму я палічыў неабходным папрасіць братоў, каб яны раней
прыйшлі да вас і загадзя паклапаціліся пра абяцаны вам дар, каб ён быў
падрыхтаваны так, як дар, а не як вымаганне.

[6]Хто сее скупа, той скупа і пажне, а хто сее шчодра, той шчодра і пажне.
[7]Няхай кожны дае, як вырашыць у сэрцы сваім, а не са шкадаваннем ці з
прымусу, бо *радаснага даўцу* любіць *Бог*. [8]Бог мае моц узбагаціць вас усякаю
ласкаю, каб вы, заўсёды і ва ўсім маючы ўсялякі дастатак, былі багатыя на
ўсялякія добрыя справы, [9]як напісана:
«*Раскідаў, раздаў бедным;*
*справядлівасць ягоная трывае навекі*».

[10]А той, хто дае сейбіту насенне і хлеб на спажытак, дасць і памножыць
вашае насенне, і ўзрасціць плён справядлівасці вашай. [11]Каб ва ўсім вы былі
ўзбагачаныя дзеля ўсялякай шчырасці, якая [прычыняецца] праз нас да
ўзнясення падзякі Богу, – [12]бо гэтае публічнае служэнне не толькі дапаўняе
[тое, ў чым маюць недахоп] святыя, але і дазваляе за многае дзякаваць багата
Богу. [13]Бо праз выпрабаванне гэтага служэння яны праслаўляюць Бога за
паслухмянасць, якую выяўляеце да Евангелля Хрыста, і за шчырую
супольнасць з імі і з усімі. [14]Яны моляцца за вас, бо хочуць [мець еднасць з
вамі] з прычыны вялікай ласкі Божай у вас. [15]Падзяка [няхай будзе] Богу за Яго
нявымоўны дар.

## **10 (1-18)**

[1]Я, Павел, які сярод вас ціхі, а калі далёка – суровы да вас, асабіста прашу
вас праз далікатнасць і лагоднасць Хрыста. [2]Прашу, каб мне, калі буду сярод
вас, не быць занадта суровым, як думаюць пра мяне, што адважваюся
[выступіць] супраць некаторых, якія лічаць, быццам бы мы жывем паводле
цела. [3]Жывучы ў целе, мы ваюем не паводле цела, [4]бо зброя змагання нашага не
цялесная, але моцная Богам на зруйнаванне цвярдыняў, руйнуючы задумы [5]і
ўсякае ўзвышэнне, што [паўстае] супраць пазнання Божага, і беручы ў палон
усякую думку для паслухмянасці Хрысту. [6]Мы гатовыя таксама караць кожную
непаслухмянасць, пакуль вашая паслухмянасць не стане поўнай.

[7]Глядзіце на тое, што перад вамі. Хто ўпэўнены ў сабе, што ён Хрыстовы,
той няхай прызнае, што, як ён Хрыстовы, так і мы. [8]Калі б я больш стаў
хваліцца нашай уладай, якую Пан даў для будавання, а не для знішчэння вас, то
не буду асаромлены. [9]Не думайце, што я палохаю вас пасланнямі. [10]Бо [хтосьці]
кажа: «Яго пасланні цяжкія і вострыя, а калі сам прыходзіць, то бяссільны і
словы [яго] слабыя». [11]Такі няхай ведае, што, якія мы ў словах паслання, калі не
з вамі, такія і ў чынах, калі [знаходзімся] сярод вас.

[12]Бо мы не адважаемся ставіць сябе побач з тымі, якія самі сябе хваляць, ці
раўнацца з імі. Тыя, што мераюць сябе сабою і параўноўваюць сябе з сабою,

неразумныя. [13]А мы не будзем хваліцца бяз меры, але ў той меры, якую
вызначыў нам Бог, каб дасягнуць і вас. [14]Бо мы не так, як быццам
недасягнуўшы да вас, таму што мы дайшлі да вас з Евангеллем Хрыста. [15]Мы
не хвалімся празмерна чужой працай, але спадзяемся, што з узрастаннем веры
вашай і мы больш узрасцём паводле нашай меры [16]і не хваліцца тым, што было
зроблена іншымі.
[17]*Хто хваліцца, няхай хваліцца ў Пану*, [18]бо праверамы не той, хто сам сябе
хваліць, але той, каго хваліць Пан.

## 11 (1-33)

[1]Калі б вы хоць крыху былі паблажлівыя да маёй неразважлівасці. Але вы і
так паблажлівыя да мяне! [2]Бо я руплюся аб вас рупнасцю Божаю, бо я заручыў
вас з адзіным мужам, каб паставіць вас перад Хрыстом, як чыстую дзеву.
[3]Аднак баюся, каб так, як змей хітрасцю сваёй падмануў Еву, не былі зведзеныя
думкі вашыя ад прастаты і беззаганнасці, што ў Хрысце. [4]Бо, калі б хто
прыйшоў і пачаў прапаведаваць іншага Езуса, якога мы не прапаведавалі, ці
калі б атрымалі іншага Духа, якога не атрымлівалі, ці іншае Евангелле, якога не
прымалі, – то вы ахвотна згаджаецеся. [5]Але думаю, што я зусім не ніжэйшы за
найвышэйшых Апосталаў. [6]Хоць я і невук у красамоўстве, але не ў пазнанні.
Урэшце, усяляк і ва ўсім мы адкрыліся вам.
[7]Ці зграшыў я тым, што прыніжаў сябе, каб узвысіць вас, бо бескарысліва
прапаведаваў вам Евангелле Божае? [8]Іншыя Касцёлы абабраў, прымаючы плату
дзеля служэння вам. [9]Будучы ў вас ды церпячы нястачу, нікому не дакучаў, бо
патрэбы мае пакрылі браты, якія прыйшлі з Македоніі. Ды і ва ўсім я стараўся і
стараюся не быць для вас цяжарам. [10]Як ёсць ува мне праўда Хрыстовая, так
гэтая пахвала мая не сціхне ў землях Ахаі.
[11]Чаму? Ці таму, што не люблю вас? Бог ведае! [12]Але тое, што раблю, буду
і рабіць далей, каб не даць жадаючым нагоду хваліцца тым, чым хвалімся мы.
[13]Бо такія фальшывыя апосталы, – крывадушныя працаўнікі, якія ўдаюць сябе
за апосталаў Хрыста. [14]І не дзіва, бо паколькі сам сатана ўдае сябе за анёла
святла, [15]то і слугі яго ўдаюць слугаў справядлівасці. Канец іх будзе паводле іх
учынкаў.
[16]Ізноў кажу, каб ніхто не палічыў мяне неразумным. А калі не, то прыміце
мяне як неразумнага, каб і мне крыху чым пахваліцца. [17]Што кажу, тое кажу не
паводле Пана, але як бы ў шаленстве, маючы падставу для пахвалы. [18]Паколькі
многія хваляцца паводле цела, я таксама буду хваліцца. [19]Бо вы, будучы
разумнымі, ахвотна церпіце неразумных. [20]Церпіце, калі хтосьці вас зняволвае,
калі хтосьці аб'ядае, калі хтосьці выкарыстоўвае, калі хтосьці ўзвышаецца, калі
хтосьці б'е вас па твары.
[21]Кажу з сорамам, што мы як быццам абяссіленыя. Калі хто адважваецца
нечым хваліцца, то, кажучы неразважліва, адважуся і я. [22]Яны габрэі? Я
таксама. Яны ізраэльцяне? Я таксама. Яны патомства Абрагама? І я. [23]Яны слугі
Хрыста? Нібы шалёны кажу, я больш: больш у працы, больш у цямніцах, у
ранах празмерных і шмат разоў пры смерці. [24]Ад юдэяў атрымаў я пяць разоў

па сорак удараў без аднаго. [25]Тройчы мяне білі кіямі, аднойчы каменавалі,
тройчы я цярпеў караблекрушэнне, ноч і дзень прабыў я ў марской глыбіні.
[26]Часта быў у падарожжах, у небяспецы на рэках, у небяспецы ад разбойнікаў, у
небяспецы ад суайчыннікаў, у небяспецы ад язычнікаў, у небяспецы ў горадзе,
у небяспецы на пустыні, у небяспецы на моры, у небяспецы сярод фальшывых
братоў, [27]у працы і знямозе, часта ў недасыпанні, у голадзе і смазе, часта ў
посце, у холадзе і галечы. [28]Акрамя іншых рэчаў, на мне штодня ляжыць клопат
аб усіх Касцёлах. [29][Калі] хто знемагае, ці я не знемагаю? [Калі] хто зазнае
згаршэнне, ці я не пакутую?
[30]Калі трэба хваліцца, то буду хваліцца сваёю слабасцю. [31]Бог і Ацец Пана
Езуса, благаслаўлены навекі, ведае, што я не хлушу. [32]У Дамаску намеснік
караля Арэты пільнаваў горад дамаскійцаў, жадаючы схапіць мяне, [33]але мяне
спусцілі ў кашы праз адтуліну ў муры, і я ўцёк ад рук ягоных.

## 12 (1-21)

[1]Калі трэба хваліцца, хоць гэта і некарысна, то перайду да бачанняў і
аб’яўленняў Пана. [2]Ведаю чалавека ў Хрысце, які чатырнаццаць гадоў таму (ці
ў целе, не ведаю, ці па-за целам, не ведаю, ведае Бог) быў забраны аж да
трэцяга неба. [3]І ведаю, што гэты чалавек (ці ў целе, ці па-за целам, не ведаю,
ведае Бог) [4]быў забраны ў рай і чуў невыказныя словы, якіх чалавеку нельга
перадаць. [5]Гэтым буду хваліцца, а сабою не пахвалюся, хіба што слабасцю
[маёй]. [6]Калі захачу пахваліцца, не буду неразважлівым, бо скажу праўду. Але я
ўстрымліваюся, каб хто не падумаў пра мяне болей, чым ува мне бачыць або
чуе ад мяне [7]на падставе мноства аб’яўленняў. Дадзена мне джала ў цела,
пасланец сатаны, каб біць мяне, каб я не хваліўся. [8]Таму я тройчы маліў Пана,
каб адвёў гэта ад мяне. [9]Але Пан сказаў мне: «Хопіць табе Маёй ласкі, бо моц
удасканальваецца ў слабасці». Найбольш ахвотна буду хваліцца сваёй
слабасцю, каб жыла ўва мне моц Хрыста. [10]Таму ўпадабаў я слабасць, пагарду,
нястачы, ганенні і ўціск за Хрыста, бо, калі я слабы, тады моцны.
[11]Я стаў неразумным. Вы мяне прымусілі да гэтага. Бо гэта вам трэба было
б мяне хваліць, таму што ні ў чым я не горшы за вялікіх Апосталаў, хоць я і
ніштo. [12]Вось знакі Апостала сталіся ў вас праз вялікую цярплівасць, а таксама
праз цуды і моцы. [13]Бо ў чым вы горшыя за іншыя Касцёлы? Хіба толькі ў тым,
што сам я не быў вам цяжарам. Даруйце мне гэтую крыўду.
[14]Вось, трэці раз я гатоў прыйсці да вас і не быць цяжарам [для вас], бо
шукаю не вашага, але вас. Бо не дзеці павінны збіраць даброты для бацькоў, але
бацькі для дзяцей. [15]Я ахвотна буду рабіць выдаткі і нават самога сябе аддам за
душы вашыя. Калі я буду любіць вас больш, хіба я атрымаю менш любові?
[16]Няхай будзе так. Я не абцяжарыў вас. Але, будучы хітрым, я подступам
здабыў вас. [17]Ці праз кагосьці з тых, каго пасылаў да вас, я выкарыстоўваў вас?
[18]Я папрасіў Ціта і паслаў з ім брата. Ці Ціт выкарыстаў вас? Ці не ў тым жа
духу мы паступалі? Ці не тымі ж слядамі [хадзілі]?
[19]Ужо доўгі час вы думаеце, што мы апраўдваемся перад вамі? Мы
гаворым перад Богам у Хрысце: усё, умілаваныя, дзеля вашага збудавання. [20]Бо

баюся, каб часам, прыйшоўшы, знайсці вас не такімі, як хачу. Ды і вы каб не
знайшлі мяне, якім не хочаце. Каб не было ў вас спрэчкі, зайздрасці, гневу,
сварак, паклёпаў, абмоваў, пыхі, бязладдзя. [21]І калі зноў прыйду, каб не панізіў
мяне Бог мой перад вамі і каб не аплакваў я многіх з тых, якія зграшылі раней і
не пакаяліся ў нячыстасці, у распусце і ў разбэшчанасці, якую ўчынілі.

## 13 (1-13)

[1]Ужо трэці раз прыходжу да вас: *вуснамі двух ці трох сведкаў пацвердзіцца
кожнае слова*. [2]Я гаварыў раней, калі быў у вас другі раз, і цяпер, [калі] далёка,
паўтараю тым, якія раней зграшылі, і ўсім астатнім, што, калі зноў прыйду, не
пашкадую. [3]Вы шукаеце доказу, што праз мяне гаворыць Хрыстус, які не
бяссільны перад вамі, але моцны ў вас. [4]Хоць Ён быў укрыжаваны праз
бяссілле, але жыве дзякуючы моцы Божай. Мы таксама бяссільныя ў Ім, але
будзем жыць разам з Ім дзякуючы моцы Божай у вас.
[5]Выпрабоўвайце самых сябе, ці вы трываеце ў веры? Самых сябе
правярайце. Ці вы не ведаеце, што Езус Хрыстус у вас? А можа вы нягодныя?
[6]Спадзяюся, што вы даведаецеся, што мы годныя. [7]Молімся да Бога, каб вы не
рабілі ніякага зла. Не для таго, што мы паказаліся годнымі, але каб вы рабілі
дабро, а мы былі як нягодныя. [8]Мы нічога не можам [рабіць] супраць праўды,
толькі дзеля праўды. [9]Таму радуемся, калі мы слабыя, а вы моцныя. Аб гэтым і
молімся, аб вашай дасканаласці. [10]Дзеля гэтага я і пішу гэтае, каб, будучы сярод
вас, не паступіў сурова паводле ўлады, якую даў мне Пан для будавання, а не
дзеля руйнавання.
[11]Урэшце, браты, радуйцеся, будзьце дасканалымі, суцяшайцеся, будзьце
аднадумцамі, жывіце ў спакоі, і Бог любові і спакою будзе з вамі. [12]Прывітайце
адзін аднаго святым пацалункам. Вітаюць вас усе святыя.
[13]Ласка Пана Езуса Хрыста і любоў Бога, і еднасць Духа Святога з усімі
вамі.

---